АЛЕСЬ КАМАРОЎСКІ
НАРАДЗІЎСЯ
У 1947 ГОДЗЕ.
ВЁСКА МІКАЛАЕЎШЧЫНА
Ў СТАЎБЦОЎСКІМ
РАЁНЕ
— ЯГО РАДЗІМА.
ЗАКОНЧЫЎ
БЕЛАРУСКІ
ДЗЯРЖАЎНЫ
УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ УЛ. І. ЛЕНІНА.
СЛУЖЫЎ У АРМІІ.
ЗАРАЗ —
ЗАГАДЧЫК АДДЗЕЛА
Ў ЛІТАРАТУРНЫМ МУЗЕІ
ЯКУБА КОЛАСА.

# алесь камароўскі

# пачатак

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1975

## АЎТАПАРТРЭТ

Холадам
люстра дакладныя рысы адбіла.
Толькі ці я гэта?
Зноў углядаюся пільна...
Вочы —
азёры бяздонныя з вірам заўчасным...
Колькі падзей і людзей тут
патоплена часам!
Іх мацярынскай слязою,
салёнай і горкай,
Поўніла часта даверху
няўмольнае гора.
Можа, таму,
калі згасне хто,
родны ці блізкі,
З іх вылятаюць
крывава-салёныя пыркі.
Срэбра валос узышло...
Ці з бяды,
ці як срэбны
Водкуп для стомленай маці
за хлебны і зрэбны,
Чысты дзіцячы заранак,
святое юнацтва,
Што акрылёна
за марай адолела ўзняцца?..
Ці ж серабро маіх клопатаў
важкае,
мама?

Тут
і таго будзе золата чыстага
мала,
Што перамые за век
сэрца ў венах крывавых...
Вечна ў даўгу мы
за ласку,
за рукі,
за справы.
Губы —
як лук,
напружынены,
выліты,
тонкі,
З стрэламі гневу,
усмешак зычлівых...
І толькі
Слоў наканечнікі,
як у мішэні,
здаецца,
Цэляць заўсёды
у думкі людскія і сэрцы.
Лоб —
узаранае думкамі шчырымі
поле.
Што застанецца,
як смерць
яго ўміг пераполе?
Пільна ўглядаюся...
Воблік акрэслены стыне
Бацькі майго
праз мяне
ў маім будучым сыне.

## ПРАГА

Чалавек добрай стрэчы прагне,
Высніў яе даўно...
У жыцці толькі тое прахне,
Чаму прагі жыцця не дано.

Прагне рыбы азерца,
А дарога — калёс...
Прагне шчырасці сэрца,
Як дзяцінства, да слёз.

Прагне коласа поле,
Каб да сонца расці...
Чалавек прагне болей
Навучыцца, знайсці.

Нас нішто не скасіла,
Не спіхнула з быцця,
Бо вялікая сіла
Ў гэтай празе жыцця.

## ДЗЯЎЧЫНКА

А сонца —
па заказу,
А ранак —
сіні-сіні...
І лета хмель адразу
Зноў выпілі асіны.

Вунь
пад вярбой самлелай
На ўтоптаным гасцінцы
Стаіць дзяўчынка ў белай
Раскрыленай хусцінцы.
А дома —
смачна есца,
А дома —
моцна спіцца...
Кранецца поўнач з месца —
Прыгожа вельмі сніцца.

Дзяцінства праляцела
Па ўтоптаным гасцінцы
Дзяўчынкаю у белай
Раскрыленай хусцінцы

## МАРЫ

З'яднаныя з бацькоўскімі наказамі,
Праклятыя няверамі не раз,
Вы сінімі, завоблачнымі казкамі
Аж да крывінкі працінялі нас.

Мінялі дні... І у тайзе часамі
Мы смакавалі ваш таемны міг.
Нам хвоі лапамі чубы часалі,
А мы сякерамі ствалы часалі іх.

Вы праб'яце вякоў усіх акову,
Вы праб'яце няўдач усіх сцяну!
А я імкнуся захаваць да скону
Ваш першародны колер, чысціню.

## ЗЯМЛЯ МАЯ...

*Якубу Коласу*

Усё змянілася з гадамі...
Яшчэ тады Вы разгадалі
Па буры той, па той маланцы,
Якімі стануць мікалаўцы.
Лясок узрос высокім борам,
Зялёнай цешыцца абновай.
Чало маршчыніць мудры Нёман.
І песня льецца дзіўным хорам...
Амброжык стане часам з возам
Каля акінчыцкіх бярозаў,
Паглядзіць, здыме шапку ціха:
«Якое ломіць яе ліха?»
Над пастарэлым кружыць зрубам
Дзяцінства добрая бусліха.
«Хэ-хэ, браток, няма Якуба,
Каб барану ўсцягнуў на голле...
І што яе дагэтуль коле?»
Ламае Нёман крыгі з трэскам,
Гады — раскіданыя трэскі —
Кідае ў вір з той добрай верай,
Што нехта зловіць і цяпельца
Складзе, пагрэе заўтра сэрца,
Што знойдуць добры яны бераг...
О вір жыцця і часу рэкі!
Да сёння шмат вы змылі з поля.
Карчмы няма. Не гоніць болей
Ламаніха сваёй гарэлкі.
Тарэся і Аўгеня — разам,
Не б'юцца больш у цяжкім горы.

А дождж грыбны, як з луба, спорны
Не так даўно па дахах бразгаў.
Дзе ліпы разышліся колам —
Ого, браткі, якая школа!
Навука тут ідзе не туга —
І сохне бацькава папруга.
А дзядзька «Юзік-шаляніца» —
Гатоў яму я пакланіцца —
Падкруціць хвацка свае вусы:
— Не ўсе звяліся беларусы! —
На вёску родную пакажа:
— Ды жыць тут — шчасце, а не гора,
А маладых вось цягне горад,
Яно, вядома, не прывяжаш...
Не любіць дзядзька наш вусаты,
Калі прыходзяць экскурсанты,
Каб паказаў з жыцця паперы...
Ён не дае паперам веры:
— О-ей, браткі, ці ж хіба гэта
Музей народнага паэта?
Музей яго — той бераг з дубам,
Кароў там пасвілі з Якубам,
І гэты Нёман, стужкай сіняй
Які уплёўся ў косы луга:
Плыты мужчыны — кожны зухам! —
З Мікуціч гналі ў дождж і сівер.
А гэты лес, а гэта жыта?
Тут з імі ўсё жыццё пражыта.
Там — Бервянец, а там — Лядзіны...
Сваёй красой, уборам дзіўным
І нейкай рысай непрыкметнай
Цябе захопяць, як паэта...
Чытае дзядзька... І здаецца,
Што зараз Колас адгукнецца
І дачытае той урывак,
Што час адрэзаў смерцю крыва...

Вясна-красна... Зялёнай казкай
Прыходзіш ты, і я малю, каб
З той разнастайнасці малюнкаў
Ты паказала дуб высокі,
Што прагна п'е зямныя сокі.
Зямля мая! З тваёй крыніцы
Хачу я сёння прычасціцца
Зямною, прадзедаўскай сілай
І каля люднай стаць дарогі,
Як беларускі дуб-асілак.

## У МІКАЛАЕЎШЧЫНЕ

Касцам атаву давяршыць —
Вазы плывуць, як хмары...
Вяртае восень прагу жыць,
Людскія цешыць мары.

Народ натруджанай зямлі,
Дзе лес і жаўтапёсы,
Пажары тройчы не змялі,
Не выраклі нябёсы.

Калісь па вёсках на касьбе
Нішчымным спелым летам
Касцы апраўдвалі сябе:
«Затое ў нас паэты...»

І карчакоп, і плытагон,
Суняўшы смутак ціхі,
Услявяць песняй зноў таго,
Чые вякуюць кнігі.

Сягоння спеўна ў берагах
І Нёману старому —
Яго ж зямляк аберагаў,
Укленчыўшы на строму.

Ліпнёвы сонечны агонь...
Прыгнула ў росце колас —
Яму заўжды сваю далонь
Падклаў бы дзядзька Колас.

Пяро іржою не пакрыў
Няўмольны час разлукі...
Яго адвагу і парыў
Перанялі унукі.

## ЁСЦЬ РАЧУЛКА...

Ёсць рачулка маленькая Ловаць...
Зоры ноччу там невадам ловяць
Ціш зямную... А раніцай лотаць
Пачынае пялёсткамі лопаць.

Прыгажосць у русалачным выглядзе
На ваду месяц-лодачку выведзе...
На сярэдзіну самую выедзе —
Зорка з косаў у рэчку выпадзе.

Аняменне растане лёгкае:
Рэха спелае і далёкае
Б'ецца, рвецца, па лесе лётае,
Як лясун адзічэлы галёкае.

А падкрадзецца свежая раніца —
Салаўі закаханыя раяцца.
Іх прызнаннямі сэрцы раняцца...
Плешча песням зарослая старыца.

Ёсць рачулка маленькая Ловаць...
Там рамантыка мары ловіць,
Там, каханай паднёсшы лотаць,
Ты адчуеш даверлівы локаць.

## НАРАДЖЭННЕ

Жыццё вывучваў з вершаў,
У кнігах днямі жыў,
А жнівень луг давершваў
Пад музыку машын.

Я вечарамі трызніў
Вянком дзявочых кос
І з выдумкай на прызбе
Ў сапраўднасць квола рос.

Другія ў дзевятнаццаць
Варочалі камлі
І ехалі прызнацца
У мужнасці зямлі.

Смяяліся мужчыны...
І стала мне уцям,
Што ўсё ж глыбей маршчыны
Не з кніжнага жыцця.

Пазнаў складанасць лёсаў,
Ад працы дабрату,
Калі сякерай соснам
Абчэсваў бараду.

Ад смагі пад спякотай
Плылі ў міраж палі...
Сваім гарачым потам
Я каласы паліў.

І з дня у дзень дзівіўся
Праз сілу і парыў:
Цяпер я нарадзіўся,
Нанова ўсё адкрыў!

* * *

Не для рамантыкі кніжнай
Планету цаліннную выбралі,
Дзе вецер мятлой увішнай
Пяску падымае вырай.

Мамы прасілі, малілі,
Сябе берагчы наказвалі...
І прысылалі маліны,
І сны закалыхвалі казкамі...

...Рукі — калами, хоць вылами,
Ад пылу у горле пяршыла...
Бура маланак віламі
На захадзе хмары вяршыла.

Дрэвы аж пальцы выкручвалі,
А дождж не дайшоў к нам спорны...
Хлопцы машыны прыручвалі,
Палацаў стаўлялі апоры.

Нядаўнія беларучкі
Цаглінамі лоўка гулялі
І з першай палучкі
Месяца келіх кулялі.

Не для рамантыкі кніжнай
Планету цаліннную выбралі,
Дзе вецер мятлой увішнай
Пяску падымае вырай...

## ЦЫРКУЛЯРКА

У цяні —
пад сорак спёка,
Засыхаюць губы аж...
Лёгшы у блакіт глыбока,
Сонца плавіць млявы пляж.
За абедам нам
ад бедаў —
Бак вады,
па тры супы...
І ляціць камель
тарпедай
На гарачыя зубы.
Заўтра
зноў трашчаць папругам.
А запалу
хопіць нам...
Сонца
цыркулярным кругам
Стэп раскроіць напалам.

## НА ЦЭМЕНЦЕ

Неба,
грамамі бухні,
Прышлі
беларускі дождж!
Не стыне да вечара ў кухні
Ад спёкі казахскай
боршч.
Апалубка
прагна
рыпае,
Крэкча
з вадою кадзь...
Кельма,
блішчастаю рыбаю
Грэбень раствору
гладзь!
Кідаем раствор рыдлёўкай —
Да неба
хістаецца дол...
Абліты потам
і спёкай,
Ляжа падмурак пад дом.
А захад пачне разгарацца —
Свой мы суцішым тэмп...
Зоркай зіркастай на працу
Прыходзіць
дзівіцца стэп.

## СМЕРЦЬ БАЦЬКІ

Белая тэлеграма
Пачарнела ушчэнт...
Мама...
            Мама!
Ён устане яшчэ!

Ён устане і пільна
Зноў агледзіць парог...
Не астыла цапільна,
Не ступіўся нарог.

Фатаграфія з рамкай...
Крэп...
            Крычы не крычы —
Не затрэскаюць ранкам
Пад сякерай карчы.

Я не верыў, што рукі
Да крыві ў мазалях
Можа час для разлукі
Згарнуць на грудзях.

Тата...
            Тата,
                        клянуся:
Праз жыццё, як праз бой,
Назаўжды астануся,
Як з легендай, з табой!

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

1

Лес —
партызанскі лёс.
Вораг лез —
З-за елак і лоз
Страляла злосць.
Дубы — усе калекі,
Сасна чацвёртая — ўдава...
Даваў цяпло,
прытулак,
лекі
І гадаваў,
не выдаваў.
Глядзеўся лес
кастроў вачыма
У нечаканасці імглы.
Сцяжынка кожная вучыла,
І —
заблудзіцца не маглі.
Агні баёў цяпер —
успышкай,
Сцяжына,
сосны — па баках...
Страляе дзяцел зверху шышкай
Ў мішэнь
сівога павука.
Дзятва шукаць
легендаў здані
Ідзе
з высокай збажыны...

О лес — баі, агонь, заданні...
Ты —
помнік мёртвым і жывым.

2

Маці
ляжыць
хворая.
Дачушкі
завязваюць банцікі.
У маці сягоння гора:
Дзень смерці
іх бацькі.

3

Засада
ля саду
замерла.
Вінтоўка
адлегласць замерала.
І стаіўся
фашысцкі кат.
Пра супадзенне дат
Жыцця
і смерці
Ён не ведаў,
не думаў,
Цягаючыся па свеце.
Стрэл
партызана стрэў.
Упаў
пад ліпай зжаўцелай...
Цёплы лісточак
рану прыкрыў на целе.

4

Ён ішоў
з накіпелай помстай,
З надзеяй простай:
Перамагчы,
забыўшы пра сябе,
У барацьбе...
Ён ішоў
да заўтрашняга дня...
Выбухам —
спалоханыя птушкі...
Ён упаў...
Навек зямлю абняў...
Веерам —
разраджаныя стужкі...
Вочы глянулі
на лес пажоўклы...
Ён не ведаў,
што сягоння ў жонкі
Нарадзіліся,
як поўні,
дзве дачушкі

5

Маці
ляжыць
хворая.
Дачушкі
завязваюць банцікі.
У маці
сягоння
гора:
Дзень смерці
іх бацькі.

6

Страту,
туту
Нясу
да абеліска...
Здаецца,
На нечае сэрца
Я
наступіць магу.
Жонкі...
Дочкі...
Маці...
У ваенкамаце —
«Загінуў смерцю мужных».
Ля абеліска на кветках —
не росы:
Родных і блізкіх слёзы.
Маўчаць абеліскі.
Лета,
восень,
зіма,
вясна...
Прыходзяць маці...
Валасоў сівізна.

7

У спякоту,
у завею
Хлапчукі
гуляюць у вайну.
Я іх не віню.
Я іх разумею.
Ім хочацца
ўзяць вінтоўку,

Бабахнуць
у выцвілую ватоўку,
Каб —
на шматкі...
Іх шмат такіх...
У мяне
на сцяне
У рамцы,
як у труне,—
Бацька...
Тата!
Устань!
Скажы,
Пажадай:
Няхай
Хлапчукам у сны
Ад вясны да вясны
Урываюцца птушкі і песні
З раніцай роснай...
Маці стаіць ля весніц,
Глядзіць з-пад рукі:
Дзяўчынка босая
Бяжыць да ракі...

8

Маці
ляжыць
хворая.
Дачушкі
завязваюць банцікі.
У маці
сягоння
гора:
Дзень смерці
іх бацькі.

## ПАМЯЦЬ

1

Тым, паўшым у вайну,
Травой прабіцца з дзёрна,
А нам
        ісці ў жыцці,
                як на сяўбе.
Дык помніце заўжды,
                жывыя,
                        цвёрда,
Што сеем мы
                за іх
                    і за сябе.

2

У вайны не адна віна...
Як жалобная атэстацыя —
«Іх разлучыла вайна...» —
Шукае радыёстанцыя.
З надзеяй замоўкнуць рукі...
Ў хвіліну такой цішыні
Думка мільгне ад разлукі:
«А можа, яшчэ жывы?..»

3

«Зноўку ветэраны...» —
Раяцца ўрачы...
Чым старыя раны
Сёння залячыць?

І якую волю
Трэба ў сэрцы мець,
Каб смяяцца з болю:
«Нас далечыць смерць...»

4

За жыццё пад куляў град
Пасылала адважнейшых рота,
І часта
вяртаўся загад:
«Узнагароджаны пасмяротна».
Героі апошняй вайны,
З вас многа хто
смерць сасватаў...
Медалі і ардэны
Шукаюць сваіх адрасатаў...

5

Многім не знайсці сяброў і блізкіх...
Ветэраны не загояць раны...
Над аднымі сёння — абеліскі,
Над другімі — вежавыя краны...

6

Чалавек!
Ты кайся ці не кайся —
За табою
след
тваёй віны.
За нашчадкаў
сёння ты ў адказе,
Каб яны
не ведалі вайны.

## ПАКЛОН

З Дому шлюбу
любы з любай
У букетах яркіх руж
Выплываюць — глянуць люба! —
Маладыя
жонка,
муж...
Асцярожна, ногі:
плошча Перамогі!
Спяць бацькі трывожна,
а над імі — гімн...
Сватала вайна іх,
ажаніла многіх
Неразлучна з смерцю
у дамах магіл.
Чуеце, нашчадкі,
іхняе дыханне? —
З-пад пліты трапеча
вечнасці агонь...
Вашае каханне,
вашае змаганне —
Як працяг, як памяць,
у святле яго.
На пліту кладуцца
ружы асцярожна,
Заімглілі слёзы
вочы маладой...
Памятны, шчаслівы
міг спыніў прахожых,

Як паклон загінуўшым
на зямлі маёй.
Прагна ў рост да сонца
рвецца клён кашлаты...
Галасок свой небу
дорыць немаўля...
Вечнымі агнямі
мужнасці салдата
Ад вайны апошняй
дыхае зямля.

## КРОСНЫ ЖЫЦЦЯ

Раніца спрала
туману кудзелю,
Рэк палатно
разаслала бяліць...
Кросны жыцця
ткуць на заўтра надзею,
Ткуць ад клубка,
што сягоння баліць.
Стукаюць бёрды стагоддзяў
вагома,
Нітка трымціць
ад траціплавых пуг...
Падае
травам і дрэвам
на гоман
Выбухаў даўніх
уедлівы пух.
Сушыцца сонца ручайка
у леце,
Нітка арбіты
спаўзае набок,
Скача рыўкамі,
то коціцца ледзьве
Цяжкай Зямлі
пабурэлы клубок.
Месяц
лучынай згарыць на світанні —
Неба замружвае
тысячы вок,

Толькі нястомна
снуе між нітамі
Рупнай ракеты
удумны чаўнок.
Гэй,
асцярожней
на тым кантыненце,
Позірк няўцямны ўтаропіце свой:
Войны заткаўшы,
гады ліхалецця,
Кросны жыцця
зачынаюць сувой.

## КАВАЛЬ

Зноў дрыжаць дамы:
У кутку прасторным
Пасвяцца грамы
На кавадле чорным.

Іскры па баках:
Аж да ночы волат
Песціць у руках
Трохпудовы молат.

Хлопцу не да сну,
Ходзіць у трывозе:
Кажуць, што вясну
Бачылі ў дарозе.

## ЧАЛАВЕК

### 1

Чала-век...
«Народжаны зямлёю для Зямлі,
Ахрышчаны маланкамі вякоў,
Я працаю сябе змяніў
І многае змяніў вакол.

Сцякаў крывёй, шукаў прытулак, соль,
З пчалою рупнай разам вырастаў...
Змаганнем воблік вызначыўшы свой,
Я Чалавекам называцца стаў».

### 2

Чала-век...
«Чало маё халодныя вякі
Спяліла думкі, мары і разлік,
Каб галаву ўвянчалі зор вянкі,
Як сімвал сілы ў небе ад зямлі.

Мая рука праз імпульсы гадзін
Імкненне да планетаў узняла.
Я у сваіх задумах не адзін:
Мне служаць рэкі, вецер і зямля».

### 3

Чала-век...
«Ні ў думках горкіх, ні ў гарачых снах
Не трызніць смерцю і вайною нам.

Я не дазволю у  маіх лясах
Расці атрутным, атамным грыбам.

Няхай ляцяць імклівыя гады,
Іду па перамогах з века ў век.
Мне жыць, любіць і працаваць заўжды:
Я не памру, бо я ёсць Чалавек!»

## КАСМАНАЎТ

Недзе войны ідуць на зямлі...
Касманаўту ж не спіцца начамі:
На міжзоркавым караблі
Давядзецца мо заўтра адчаліць.

Стрэне потым аркестраў медзь,
І на кожнай старонцы газеты
Яго імю заўжды грымець
Небывалым цудам сусветным.

І ён прыйдзе да нас тады,
Просты і чалавечны,
Каб у вершах праз дні і гады
Перайсці назаўсёды у вечнасць.

Стане ціха, і з-пад рукі
Перагледзіць прасторы толькі,
А к нагам упадуць васількі —
Недалёкага неба асколкі.

## СОЛЬ

> Летам, запрогшы ў сані тройку мядзведзяў, высыпаўшы дарогу соллю, князь Радзівіл са світай імчаўся дзеля весялосці з Нясвіжа да Міра, што за дваццаць пяць кіламетраў.
>
> *З гісторыі*

Скупой зямлі палосы
Дзень горка дамяраў...
Гарачыя палоззі
Трымалі да Міра.

Нясвіж ачысціў крамы,
На шлях, як на мазоль,
Ад местачковай брамы
Снягамі сыпаў соль.

Пяршыла ў горле сушка:
Не солена ў гаршку...
А соль іскрыстай стужкай
Лягла па бальшаку.

Праз плач — паноў зласлоўе...
Уяўнасць белізны...
І «трэцяе саслоўе»
Хрысцілі бізуны.

Мядзведзі цуглі рвалі,
Іх князь зусім здзівіў.
Ля тых, што век трывалі,
Плыў сыты Радзівіл.

Імчалі пругка сані
Па выстылых слязах...
А помста на паўстанні
Збіралася ў лясах.

І, як сама расплата,
За вынесены боль
У спіны тых вар'ятаў
Ляцела шротам соль.

## СКАРБЫ

Беларускія гасцінцы
Прывядуць к сівым дзядам...
Казкі — іхнія гасцінцы —
Маладзейшым перадам.

Бела-русыя бароды,
Прастата, жыццёвы гарт...
— З беларускай ты кагорты,
Калі свой шануеш скарб.

Мудрасць — з кожнае усмешкі,
Розум — з іскарак вачэй...
З тых крыніц выходзяць сцежкі,
Дзе само жыццё цячэ.

З ручнікоў разбудзяць пеўні
Першароднасць, хараство...
Здасца: ў вышыўках напеўных
Быццам з чарамі радство.

Адыходжу у даўніну,
Ў скарбы чыстыя гадоў,
І збіраю, як даніну,
Казкі мудрыя дзядоў.

## АДПУСЦІЦЕ

*А. А. Сянкевічу*

Доктар,
пойдзем,
родны,
пойдзем
Пад барвовыя кляны...
Дайце глянуць, як на поўдзень
Жураvоў ляцяць кліны.
Я не трызню...
Нёман мые
Берагоў крутых бакі,
Быццам помнікі нямыя,
Стынуць зранку рыбакі.
Пагляджу, як у дзяцінства:
У прадонні сінім дня
Чайкі
ў завадзі цяністай
Воду мераюць да дна.
Пабрыду
лясною глушай
У спакой,
дзе верасы
На палянах парных сушаць
Кроплі выспеўшай расы.
Адпусціце,
я збяруся...
Кінуць птушкі па пяру...
Палячу,
на Беларусі
З ціхай радасцю памру.

## СМОЛЬНЯ

Сасоннік рэхам поўнячы,
Дубасіць дзяцел долатам.
І цішыня апоўначы...
Дубы стаяць, як волаты.

Бярозкі к ім прыгожыя
Прыбеглі пакланіцца...
А збоку падарожныя
Акружаны суніцамі.

Адзенуць ліпы золата —
За хмурымі лясамі
Грамы пудовым молатам
Зіме збіваюць сані.

А ціхае, напеўнае
Тут заспявай паўголасам —
Дагоніць рэха спелае,
Нашэптанае Коласам.

## ВОСЕНЬ

Нёман,
　　　　вірамі круцячы,
Падперазаў Мікуцічы,
Выгнуў затокі і лукі —
Месцы птушынай разлукі.
Дажджы не сціхаюць спорныя...
Птушак аркестры зборныя,
Па ўсім прадчуваючы восень,
Грымяць па гадзін дваццаць восем.
Бачыш,
　　　　хлапчук вясковы
Яблык грызе да аскомы
І потым да самага донца
З кубка ваду п'е і сонца.
Бы векавухі-дзяўчаты,
Рабіны просяцца ў хаты...
Месяц —
　　　　　яблык апошні —
Сарвецца,
　　　　　ўпадзе на пожні...
Сцепануўшыся зябка,
　　　　　　　　　　　восень
Прыкурыць на бульбянішчы просіць,
А пасля,
　　　　　падпаліўшы бярозку,
На вазах уцякае у вёску.

* * *

Акно і неба — свету поле —
Адною фарбай дзень змяшаў...
Вазон і лес — адзіны колер,
Між імі — люстрыцца мяжа.

Уяўна ў шкле свяціл нашыва...
Удумны ў небе воблак лёт...
Галінку з хаты зверне шыба:
Не растае празрысты лёд.

А за акном буяюць дрэвы —
Фантаны сокаў ад зямлі...
Спялёхне конаўка ад дрэмы,
Каб ліст пакой азеляніў.

Яму б — туды, дзе сосны гнуцца
Ў лукі, і — промнем па гары,
У кожнай кроплі захлынуцца
На схіле сонца ці зары.

Вясна — дзяўчынай падвянечнай —
Мяняе лесу крой, фасон,
І сузіральна ў мроі вечнай
Азорыць квеценню вазон.

А восень мачыхай захмарыць,
Каб лес у днях палаў і нік,
І, як слязьмі, лістамі барвы
Вазон прапаліць палавік.

* * *

Пяршыць у горле холад ранні,
І цэдзіць медзь промень скупы...
Клін журавоў рабіну раніў...
Начлег скубе цяпло з капы...

Сасне прасмоленай іглііцай
Сшываць пара дыван лістоў...
Дымамі небакрай імгліцца —
Снягоў закіпвае настой.

Спадае летняе пахмелле,
Развага ясніць мар ваду,
І на світанні розум меле
Зярняты выспеўшых задум.

Ты не лічы, што пражыта,
Што спалена ў крыві рабін:
Прыходзіць час, каб сеяць жыта,
Прыходзіць час дабро рабіць...

ЯНКУ КУПАЛУ

Мы ўзмахнулі бурна крыллем,
Разагналі ўсе напасці,
На мінуўшчыны магіле
Збудавалі сваё шчасце.

Запаветы, мары тыя
Прад сабой як мэты ставім.
Арляняты маладыя
Сёння ўжо арламі сталі.

Будзем сеяць вечна, дружна
Розум, кнігі і зярняты
І сям'ёю непарушнай
Крочыць з песняй арлянятаў.

## ПЕРАБЫТЫ
## КАЛЯНДАР БАЦЬКІ

### 1

Восі рыпяць
на пяску
у вазах...
Восень збірае вяселлям пасаг...
Сонца праменнямі
ўдзень
з павуцін
Невад звязала
на кожнай з пуцін.
Бабіна лета —
бабы на полі...
Ўстаўшы да сонца,
поле палолі,
Кінуўшы-рынуўшы клопат
мужчынам,
З'еўшы не з'еўшы
бульбы нішчымнай.
«Ён там уходзіцца,
ён там дагледзіць...»
Сонца
яго не застала ў пасцелі,
Раніца ўстала —
пахі ўпацелі:
Клепле касу неастылую,
менціць,
Кіпцем спрабуе
і слухае гукі...
А спрацаваныя —
лоўкія рукі!

Век перажыты —
бліжай да поля,
Поле —
спрадвеку
мужыцкая доля,
Прадзедаў спадчына —
моцнае семя.
Прага да працы
галодных сем'яў...
Правіла
змалку
засвоена добра:
Клопат зямельцы —
поўная торба.
Зноўку даробкі,
дакоскі,
дакопкі...—
Час не паставіць
на гэтым шчэ
кропкі.
Покуль знямозе
за сэрца не брацца,
Знойдзецца клопат,
наваліцца праца...
Рупнасць шукае
да працы прычэпку,
Хоць бы прыбраць
на дрывотніку шчэпку.
Нёман
плыты маладосці
не верне...
Нораў
адно толькі
Нёману верны.
Вунь пад страхой
заржавелы багор...

Хіліцца,
сонца жыццяза бугор...
«Быў бы кавалак
хоць чэрствага хлеба...
Што яшчэ больш
для старога мне
трэба?»

2

Нізкая хата.
Печ —
на паўхаты.
Стол грубаваты,
абрус махраваты...
Покут —
пад кнігамі гнецца паліца,
Сыну з прыезду
над імі маліцца.
Клопат мужчынскі
зімою —
пра лета.
Снег па калена —
ўраджаю прыкмета...
Трэба залатаць
страху у адрыне
(Потым не выпадзе —
праца нарыне),
Цэп патрымаць —
а ці ёмкі,
ці важкі? —
Шахнуць касу
звыклым рухам мянташкі,
Глінай замазаць
патрэсканы ток...

А не дагледзіш —
які ж будзе толк?
Змеркне —
вячоркі збяруцца
ў суседа,
І загамоніць,
пальецца бяседа...
Спрэчкі...
Навіны...
Ўспаміны...
Развагі...
Кожнае слова
кладзецца на вагі.
Звеецца дым,
змоўкнуць крыкі і стукі,
Бразне на ганку
вядро аб прыступкі,
Весніцы рыпнуць...
І хата астыне...
Лёгка ўздыхне
перад сном
гаспадыня...
Ноч хоць кароткая,
доўгія думкі
Родзяцца,
спеюць,
растуць у лятункі,
Быццам з-пад сэрца
ўздымаюцца хвалі,
Тое выносяць,
што ў сэрцы хавалі...
«Эх,
каб вярнуць мне
гады маладыя!
Многа б змяніў,
падабраў бы лады я...

Жыць
на маім на пляцы
ніштавата:
Глеба удзячная,
спраўная хата
І гаспадарка
на моцным возе...
Можа, як спадчыну,
сын гэта возьме?»

3

Нёман разліўся...
І кроплі з вясла
Прагна глытае
вада і вясна:
Сілу збіраюць,
каб грэблі,
кусты
Змыць
і рассеяць
старыя пласты.
Думаюць вочы...
Не бачыць,
не чуць...
Думаюць вочы...
Прыжмураны чуць...
Быццам
канцамі раскіданых рысак
Памяці даўняй
разгортваюць прысак...
«Вось і пражыў...
А ці з толкам,
ці марна? —
Думка навісла,
як чорная хмара.—

Вечна прыспешваў
то зімку,
то лета:
Хай бы ўжо
тое,
хутчэй бы ўжо
гэта!
І не заўважыў
у клопатах,
спешцы,
Што адхадзіў
па крутой сваёй сцежцы.
Днём мітуслівым
жыццё праляцела,
Дых заняло,
што аж цела зжаўцела,
Збіла-прыгнула юнацкія крыллі,
Многа яны,
што хацеў,
не скрылі...»
Цёткам
каб толькі
сустрэцца на сцежцы...
Цеста чакае
ля печы у дзежцы...
Столькі сабралася плётак,
навін!
Хіба ж за пяць абгаворыш хвілін?
Сад
распукнуўся у цвет
ля двара —
Бульбе ў барозны
лажыцца пара.
Трэба
ячменю пасеяць
хоць латку:

Добра ў нядзелю памазаць аладку!
Ранак
зацэпліўся толькі у печы —
Конь і мужчына напружваюць плечы,
Ісціна працы:
араты дзе плача,
Ўвосень
жняя там
ад радасці скача.
Ці пасмакую я
свежага хлеба,
Ці узару цябе зноў,
мая глеба?
Праца,
як вір,
апануе,
заверціць,
Часу не знойдзеш
спакойна памерці...»

4

Краснае лета...
Буяе,
вяселіць...
Парная свежасць
росных аселіц...
Смутак і радасць...
То ліўні,
то смага...
І да жыцця
яшчэ большая прага.
«Старасць —
не радасць...
Тут дзень
роўны году.

Дум —
галаве,
а нагам —
меней ходу...
Хочацца стаць —
сябе гэтым і цешым —
Дзеду —
малодшым,
малому —
старэйшым...

Час справядлівы!
Табе лью слязіну:
Вочы вярні мне,
а розум
дай сыну!

Сын...
Аба мне
напамінак адзіны...
Самыя цяжкія дні і гадзіны
Выцерпеў я,
палажыўшы здароўе,
Толькі каб ён
не плаціў сваёй кроўю.
Змалку вучыў да работы быць здатным:
Шлях —
як пытанне:
што ўзяў
і што даў ты?
Змалку наказваў
людзей не цурацца,
Жыць сярод іх...
А не клеіцца праца
Ці не туды
ставіш,
сыне мой,
ногу,

Людзі падкажуць
і людзі памогуць.
Што да павагі,
то к людзям і хлебу
Ёсць яна...
Толькі ж
у бацькаву глебу
Не запусціў карані свае —
жылы,
Больш пазірае
на кнігі,
машыны...—
Думкі то ўспыхнуць,
то сцішацца сонна,
Быццам бы выйдзе —
схаваецца сонца...—
Жыць...
Паміраць...
А цікава падняцца
Глянуць на свет
хоць гадоў праз пятнаццаць,
Ўбачыць,
што добра,
шчаслівa і ціха,
Гора не вернецца,
зведзена ліха...»
Смерць і жыццё,
вечары і світанні,
Буры і сонца,
няўдачы,
жаданні...
Восень...
Зіма...
Год цячэ саматужна...
Вечная зменлівасць,
вечная стужка.

ЗМЕСТ

**Камароўскі А.**

К 18 Пачатак. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1975.
56 с. з іл. (Першая кніга паэма).

Алесь Камароўскі родам з Мікалаеўшчыны — радзімы вялікага нашага песняра Якуба Коласа. Гэта акалічнасць не магла не паўплываць на творчасць маладога паэта. Разам з тым, яго лірычны герой стараецца ісці сваімі, не пратаптанымі сцежкамі, убачыць нешта новае, падслухаць спеў жыцця ў сённяшнім шматгалосым гучанні.

К $\frac{70403\text{-}194}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 63-76 Бел 2

На белорусском языке

Александр Адамович Комаровский

НАЧАЛО

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар В. П. Жыжэнка. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Е. У. Дмітрыенка.

АТ 04196. Здадзена ў набор 30/IV 1975 г. Падп. да друку 30/Х 1975 г. Тыраж 3000 экз. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,05. Ул.-выд. арк. 1,91. Зак. 2131. Цана 19 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.